


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 34 (1121) ГОД XXII БЕЛАСТОК 21 ЖНІЎНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.



*Нялёгкае сёлетняе жніво...* *Фота З. Лянкевіча.*

Ці ведаеце, што Бельска-Падляшскае будаўнічае прадпрыемства, ці інакш папулярны БЭП, удзельнічае ў будове гуты „Катавіцы“? Не сумнявайцеся, гэта праўда. Брыгада 12 чалавек з Бельска на чале з вопытным тэхнікам **Мікалаем Кавальчуком** у пачатку чэрвеня бягучага года пачала ўзводзіць там жыллёвы будынак на 45 кватэраў для працаўнікоў гуты. Бельскія будаўнікі працуюць па-майстэрску — каркасы дома ўжо гатовы, працы вядуцца ўнутры будынку. Ёсць падставы спадзявацца, што ў канцы гэтага года катавіцкія сталявары будуць святкаваць наваселле ў новых элегантных кватэрах. Рэкордныя тэмпы працы!

## ПЕРАМАГАЮЧЫ ЦЯЖКАСЦІ

І не толькі пры ўзвядзенні гэтай своеасаблівай візітнай картачкі БЭП-у на далёкім Шлёнску. Калектыў прадпрыемства не горш працуе і ў сябе дома, гэта значыць, у паўднёва-ўсходняй частцы Беласточчыны і суседніх рэгіёнах. Кварталы шматкватэрных дамоў у Бельску, Гайнаўцы, Сямяцічах і сотні школьных будынкаў, прамысловыя прадпрыемствы і бальніцы, дзесяткі цэнтраў здароўя, дамы культуры, ветэрынарныя лячэбніцы, рабочыя пасёлкі пры ПОМ-ах і мноства іншых аб'ектаў, словам, амаль усё, што пабудавана пры народнай уладзе за дзяржаўныя сродкі на абшары паміж рэкамі Бугам і Нарвай і па-суседску, — гэта вынік дзейнасці БЭП-у. А заданні павялічваюцца з кожным годам: калі ў мінулым годзе прадпрыемства пабудавала аб'екты вартасцю 222,5 мільёна злотых, то ў бягучым годзе гэтая сума павялічана да 240 мільёнаў злотых. Для прыкладу, калі ў 1976 г. яно перадала ў карыстанне 25,5 тысяч квадратных метраў новай жылой плошчы (г.зн. каля 500 кватэраў), то ў бягучым годзе намерваецца здаць 28 тыс. кв. м (каля 600 кватэраў).

Якія справы цяпер хвалююць гэты будаўнічы асілак?

— Дагэтуль вялікагабарытныя панелі, ці інакш кажучы — вялікую пліту, для жыллёвага будаўніцтва нам дастаўляюць беластоцкія фабрыкі дамоў, — кажа дырэктар прадпрыемства мгр інж. **Дзмітрый Ігнацюк.** — Вядома, што партыя і ўрад паставілі перад усёй нашай будаўнічай прамысловасцю павышаныя заданні, і нас не задавальняе тое, што зможа нам выдзеліць Беласток. Мы імкнемся развіваць уласную вытворчасць будаўнічых элементаў. У мінулым годзе пачаў працаваць наш уласны заводзік пад адкрытым небам у Гайнаўцы, які прадукуе вялікагабарытныя панелі. Планаваная вытворчая здольнасць яго — элементы для збудавання 1000 пакояў — нас абсалютна не задавальняе. Мы робім усё, каб давесці ў бягучым годзе яго вытворчую моц да 1300 ізбаў, а ў наступным годзе да 2000 ізбаў. Даецца нам гэта нялёгка. Не хапае, напрыклад, батарэйных формаў, акумулятараў, акумулятарнага транспарту і іншых машын і абсталявання. Але я аптыміст, бо да 1 жніўня гэтага года наш заводзік даў панеляў на 700 пакояў.

**(Працяг на стар. 4)**

## ЛЮДЗІ ГДАНЬСКАГА ГУРТКА БГКТ

Ужо амаль 10 год дзейнічае гданьскі гурток БГКТ. У яго памяшканні на вуліцы Доўгі Тарг збіраюцца беларусы (у асноўным гэта выхадцы з Беласточчыны) на розныя мерапрыемствы, якія арганізоўвае праўленне гуртка. Аб гэтым мы шырэй пісалі ў чэрвені месяцы. У гэтай публікацыі хочам паказаць галоўных дзеячоў гуртка, якія сваёй грамадскай працай спрыяюць памнажэнню дасягненняў Беларускага таварыства ў Польшчы.

**Анна Красько.** Паходзіць яна з вёскі Махнатае, што ў гміне Дубічы Царкоўныя. 12 год таму назад выпускніца беларускага ліцэя ў Гайнаўцы прыехала ў Гданьск на вучобу ў школе медсясцёр. Чатыры гады вучылася там. Яшчэ будучы вучаніцай гэтай школы, у 1967 годзе была адным з ініцыятараў утварэння ў Гданьску гуртка БГКТ. Пасля заканчэння школы пачала працаваць у бальніцы, а пасля настаўніцай у Медыцынскім ліцэі. Некалькі год таму назад распачала яна вучобу ў вышэйшай навучальнай установе. Моцна звязана яна пачуццямі з роднай хатай. Яшчэ аніводных канікул не правяла па-за вёскай Махнатае. Заўсёды сюды прыязджае, каб дапамагчы ў працы на гаспадарцы сваёй маме і малодшаму брату. Бацькі яна свайго не памятае, бо памёр ён тады, калі Ані было толькі два гады. Нялёгка было яе маці выхоўваць дзяцей, працуючы адначасова на гаспадарцы. Аня надта кахае сваю маму.

— Мая мама, — гаворыць яна, — найцудоўнейшы чалавек на свеце. Яна многа зрабіла і далей робіць, каб дзеці яе былі і прыгожа апрануты, каб былі адукаваныя, каб не адчувалі, што яны паўсіраты, адным словам, каб нам жылося так, як і тым, у якіх апрача святога слова „мама“, выгавараецца яшчэ другое: „тата“. Але што зрабіць! У жыцці ўсяк бывае.

Адданая дзецям маці выхавала іх на добрых грамадзян нашай краіны. Аня ўзорная выхавацельніца ў школе, добрая студэнтка, самаахвярны грамадскі дзеяч у сваёй установе і ў гданьскай беларускай арганізацыі. Ад моманта яе ўтварэння аж да нядаўна выконвала яна функцыю сакратара гуртка БГКТ і добра з ёю спраўлялася.

**Аляксандр Юзэфовіч.** Ад самага пачатку існавання гуртка БГКТ у Гданьску з'яўляецца верным яго дзеячом. Заўсёды залічваўся да аднаго з найактыўнейшых членаў праўлення гуртка, а цяпер выконвае функцыю намесніка старшыні гуртка. Нарадзіўся ён у вёсцы Астравок, што ў Шудзялаўскай гміне. Праз нейкі час пасля вызвалення яго бацькі пераехалі на сталае месца жыхарства ў Валілы. Ён прыбыў у Гданьск у 1964 годзе і ўвесь час працуе шафёрам. У 1972 годзе ажаніўся з дзяўчынай з Чаромхі, якая таксама працуе ў Гданьску.

**Міхась Нядзведзь.** Гэта значна малодшы дзеяч гданьскага гуртка БГКТ. Яму цяпер толькі 25 гадоў. 15 гадоў таму назад яго бацькі выехалі з вёскі Масева (што каля Нараўкі) і пасяліліся ў Гданьску. І ўжо ў Гданьску Міхась Нядзьведзь, закончыўшы тэхнікум драўніннай прамысловасці, пачаў працаваць на фабрыцы будаўнічай сталяркі. Цяпер ён там кіруе прадукцыяй у адным з аддзелаў. Ажаніўся ён з Нінай Вашчук, якая паходзіць з вёскі Янова, што непадалёк ад мястэчка Нарвы. Міхась Нядзведзь нядаўна выбраны старшынёю гданьскага гуртка БГКТ.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**



**Анна Красько.**



**Аляксандр Юзэфовіч.**



**Міхась Нядзведзь.**






## ДЗЕ ДВА Б'ЮЦЦА...

Колькі ўжо часу не спыняецца кіпенне ў блізкаўсходнім катле: не паспелі крыху суцішыцца ўзброеныя сутычкі ў Ліване, як разгарэўся канфлікт паміж Егіптам і Лівіяй.

Пад Табрукам кроў аравійскіх салдат арасіла бясплодныя пустынныя пяскі, а ў ціхіх аазісах пад цяністымі пальмамі, пад ударамі снарадаў параспырскваліся беласценныя гліняныя хаткі федаінаў. Полымя вайны разгарэлася настолькі, што амерыканская ваеншчына засталася поўнасцю задаволена: дзве братнія аравійскія дзяржавы сталі смяротнымі ворагамі — аравійскі фронт супраць сусветнага імперыялізму выразна паслабеў. Трагічнасць сітуацыі для аравійскіх народаў зразумелі прагрэсіўныя сілы ў саміх аравійскіх дзяржавах і зрабілі ўсё магчымае, каб спыніць братабойчую вайну. Гэта дзякуючы ім таксама вырашана аб сустрэчы ў Кувейце міністраў замежных спраў Егіпта і Лівіі для мірнага вырашэння канфлікта паміж абедзвюма краінамі. Здаецца, што ваеннае полымя пагасла, але на ім паспелі ўсё ж нагрэць рукі ўладальнікі ваенных заводаў у Злучаных Штатах Амерыкі. І яшчэ як! Егіпецкі прэзідэнт Садат набывае ў ЗША коштам 200 мільёнаў долараў 14 ваенных транспартных самалётаў, 12 самалётаў-разведчыкаў і высылае на амерыканскія палігоны егіпецкіх лётчыкаў, каб там прывучыліся абслугоўваць гэтае ўзбраенне. За навуку таксама будзе належыцца дадатковая аплата. І гэтыя заказы бадай не будуць апошнімі.

Словам, дзе б'юцца дзве аравійскія дзяржавы, карыстаецца трэцяя — заакіянская.

(іс)

## ВЫЛЕЧАНАЯ МУМІЯ

З аэрапорта картэж славутага манарха накіраваўся не ў спецыяльна адведзеную рэзідэнцыю, як гэта заўсёды бывае з падарожнікамі такога высокага рангу, а ў егіпецкі нацыянальны музей. Гэтаму, аднак, ніхто не здзівіўся, бо ўзрост прыбыўшага самадзержца ўжо даўно пераваліў за.... тры тысячы гадоў.

Самалёт французскіх ВПС даставіў з Парыжа ў Каір мумію фараона Рамзеса II — некалі грознага правіцеля Егіпта. „Візіт" Рамзеса ў Францыю працягваўся больш як сем месяцаў і быў выкліканы незвычайнымі акалічнасцямі: фараон ездзіў у Еўропу „на лячэнне".

Зусім выпадкова ў 1975 годзе было ўстаноўлена, што ў мумію праніклі бактэрыі і грыбкі, якія пагражаюць ёй поўным знішчэннем. Егіпецкія рэстаўратары не змаглі спыніць працэс разбурэння, і тады на дапамогу ім прыйшлі французскія вучоныя. Цудадзейным лякарствам, якім выратавалі мумію ад гібелі, сталі смяротныя для жывых арганізмаў гама-промні. Каб хвароба не дала рэцыдываў, мумія змешчана зараз у герметычны шкляны саркафаг, напоўнены азотам.

Пры блізкім знаёмстве з вучонымі Рамзес II задаў ім неадну загадку. У муміі, напрыклад, выяўлен нікацін. Не, фараон наўрад ці быў курцом. Хутчэй за ўсё, тытунь разам з іншымі рэчывамі выкарыстоўваўся пры бальзаміраванні. Аднак да гэтага часу лічылася, што ў Стары свет гэта расліна трапіла з Амерыкі, г. зн. пасля падарожжа Калумба. Выяўленне нікаціну ў муміі Рамзеса II гаворыць аб тым, што тытунь быў вядомы калі не ў старажытным Егіпце, то ўсё ж недзе ў межах афрыканскага кантынента. Або аб тым, што егіпцыяне праз акіян мелі сувязі з Амерыкай. На гэта і іншыя пытанні вучоным яшчэ трэба будзе даць адказ.

„Выздаравеўшая" мумія Рамзеса II зноў змешчана ў адной з залаў на другім паверсе Егіпецкага нацыянальнага музея. Аднак у музеі захоўваецца яшчэ больш як 30 старажытных мумій, якія з-за высокай тэмпературы, вільготнасці і забруджвання паветра таксама пачалі разбурацца. Каірскія газеты паведамляюць, што з Францыяй вядуцца перагаворы аб „лячэнні" і гэтых жыхароў музея. Акрамя таго, ЮНЕСКО выказала гатоўнасць дапамагчы Егіпту абсталяваць у сусветна вядомым сховішчы старажытнасцей спецыяльную лабараторыю для догляду мумій.

А. С.



КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

## РАВЕСНІК КАСТРЫЧНІКА

**(да 60-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі)**

Адзін з самых яркіх майстроў сучаснай беларускай паэзіі Пімен Панчанка піша для беларускага народа ўжо 40 год. Сама гісторыя ставіла яго паэзію на перадавыя рубяжы вялікіх бітваў. І, як гэта заўсёды бывае з сапраўднай паэзіяй, яна пачыналася з біяграфіі, з характару паэта.

У год нараджэння паэта адбылася сусветна-гістарычная падзея, калі расійскі пралетарыят узяў уладу ў свае рукі і стварыў першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву. Паэзія Пімена Панчанкі крочыла ў штурме першых пяцігодак, гартавалася ў агні Вялікай Айчыннай вайны, мужнела ў складаных умовах пасляваенных дзесяцігодак. Разам з эпохай змяняўся паэт. Ён заўсёды адчуваў подых часу, але заставаўся ранейшым у самым галоўным — у адзінстве лёсаў з Радзімай, у разуменні патрабаванняў сучаснасці. Тут не было месца бяздумным адносінам да жыцця.

„Для мяне самае галоўнае ў паэзіі, — прызнаецца П. Панчанка, — праўда жыцця, праўда пачуццяў маіх сучаснікаў, чалавечнасць. Мяне не захапляе назіральная лірыка, якую часамі выдаюць за філасофскую. Я за актыўную грамадзянскую паэзію. І пра роднае сяло, і пра космас можна напісаць аднолькава дрэнна. Калі паэт не можа адчуць пульса нашага жыцця, яму не дапамогуць ні наватарства, ні традыцыйнасць... Вайна навучыла маё пакаленне ненавідзець і любіць не абстрактна".

Пімен Емяльянавіч Панчанка нарадзіўся 23 жніўня 1917 года ў горадзе Рэвелі (сёння Талін), куды яго бацькі, беззямельныя беларусы, выехалі яшчэ задоўга да імперыялістычнай вайны ў пошуках заробку. У сям'і захаваўся „матчын успамін" аб пралетарскай салідарнасці людзей працы, калі ў дзень нараджэння сына — будучага паэта нечакана прыйшла дапамога ад эстонскіх рабочых, сяброў бацькі. Яны прынеслі галадаючай сям'і „шапку пацёртых рублёў, што маці ў цэху сабралі" (так расказвае аб гэтай падзеі Панчанка ў вершы „Шапка эстонца"). Бацька да гэтага часу перажыў ужо акопнае пекла імперыялістычнай вайны і хутка ўжо змагаўся ў радах Чырвонай гвардыі. Толькі ў 1920 годзе сям'я вярнулася ў Беларусь. Тут, у мястэчку Бягомлі, у дрымучых лясах верхняй Беразіны прайшло дзяцінства паэта, тут нарадзілася яго замілаванне да беларускай прыроды, да кніг беларускіх класікаў Купалы і Коласа, тут паявілася пачуццё гонару за свой народ.

Вершы Пімен Панчанка пачаў пісаць з дзесяцігадовага ўзросту. І ўжо тады зачытваўся творамі Пушкіна, Лермантава, Ясеніна, Багрыцкага, пазней захапіўся творчасцю паэта — трыбуна рэвалюцыі Маякоўскага, які стаў для яго „самым неабходным на ўсё жыццё". Творчая вучоба ў класікаў стымулявала пошукі сваёй тэмы.

З 1934 года П. Панчанка працуе настаўнікам у школах Магілёўшчыны, і тады ж паяўляюцца ў друку яго вершы. А ў 1938 годзе выходзіць яго першая паэтычная кніга „Упэўненасць", якая адразу ж звярнула ўвагу сваёй непасрэднасцю і арыгінальнасцю. Жыццё новай калгаснай вёскі аўтар паказаў на прыкладзе камсамольца 30-х гадоў.

Салдатам-журналістам прайшоў Панчанка па дарогах Вялікай Айчыннай вайны („Пяць франтоў мяне пылам гарачым абсыпалі"), супрацоўнічаў ён у франтавых газетах. Яго асабістая біяграфія злілася тады з біяграфіяй мільёнаў яго суайчыннікаў, якія выстаялі ў смяртэльнай схватцы з фашызмам. Так нарадзіліся яго вершы „Беларусь", „Так пачынаецца народны гнеў", „Палескі напрамак", „Герой", „Сон пра апошні залп". Гістарычную перамогу над фашызмам Панчанка сустрэў на зямлі старажытнай Персіі, дзе і быў створаны яго славуты „Іранскі дзённік" — першы зарубежны цыкл у беларускай літаратуры.

Успрыняцце жыцця ва ўсёй яго складанасці, супярэчнасці, з трывогамі нашага стагоддзя, як і шырокія тэматычныя гарызонты адзначаюць шчодры талент Панчанкі на сучасным этапе. Да самых значных катэгорый чалавечага быцця ён падымаецца ад простых, штодзённых спраў. Умее ўцягнуць у сферу паэзіі велізарнае мноства з'яў, падзей, фактаў, якімі жыве народ. Як паэт дапытлівай думкі і бескампрамісных маральных патрабаванняў, устае ён перад намі ў кнігах „Прысяга", „Шырокі свет", „Кніга падарожжаў і каханняў", „Нью-йоркскія замалёўкі", „Тысяча небасхілаў", „Крык сойкі". Складаныя справы века адкрываюцца таксама ў яго этапных кнігах „Пры свеце маланак" (яна атрымала Дзяржаўную прэмію БССР), у лірычнай споведзі „Снежань" і іншых.

Свае творы паэт напаўняе роздумамі аб духоўнай сутнасці чалавека, аб сэнсе жыцця, аб чалавечнасці. І ці піша ён аб прыгажосці зямлі і яе партызанскай славе, ці вядзе размову з маладым пакаленнем, ці трывожыцца аб захаванні прыроды, ці перасцерагае перад атамнай пагрозай свету, яго лірычны голас заўсёды добра ўспрымаецца чытачом.

Нястомную творчую працу Пімен Панчанка спалучае з вялікай грамадскай дзейнасцю. Ён — дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, старшыня рэспубліканскага камітэта абароны міру, удзельнічаў у працы сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

І хаця Пімену Панчанку спаўняецца 60 год, жыццё кліча яго наперад, у нязведаныя прасторы, да новых вяршынь.

**В. Гапава,**
*кандыдат філалагічных навук*

### Наша галерэя

*М. Л. Бельскі. Ля вытокаў партызанскага руху.*




**Sobota — 20.VIII.** 11.45 Program dnia. 11.50 Prawda czasu, prawda ekranu. Romanca o zakochanych — radziecki dramat obyczajowy. 13.50 Radzimy rolnikom. 14.00 Studio 8.

**Niedziela — 21.VIII.** 8.55 Program dnia. 9.00 Przygoda z Mimi — radz. film dla dzieci. 10.10 Antena. 10.35 Morskie bogactwa Korei. 11.10 Rzeczpospolita muzyczna — Radom. 12.05 Dziennik. 12.20 Rolnicze rozmowy. 12.50 Cudowna lampa Alladyna — widowisko dla dzieci. 13.40 Bank 440 — Olesno-Pleszew. 14.45 Los. Dużego Lot. 15.00 Chłopiec i skrzypce — jug. dramat psych. 16.30 Wielka gra. 17.20 Teatr Komedii. Leonid Żuchowicki „Wypijmy za Kolumba". 18.45 Bank 440. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Spryciarz — komedia ang. 22.00 Róża czerwona — pr. rozr. 23.00 Sport.

**Poniedziałek — 22.VIII.** 14.30 Program dnia. 14.35 Wakacyjne kino młodych. Kto wierzy w bociany. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Historia w krajobraz wpisana. 17.00 Zwierzyniec. 17.55 Przygody pana Michała — serial. 18.50 Wystąpienie amb. Rumunii. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Telewizji. Przed burzą — cz. VIII Ostatni tydzień pokoju. 21.50 Camerata. 22.15 Gdy zaczynaliśmy... Kino. 22.35 Dziennik.

**Wtorek — 23.VIII.** 14.10 Program dnia. 14.15 Wakacyjne Kino Młodych: Ogniomistrz Kaleń. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Scena Tel. Mł. Zwariowana nauczycielka. 17.10 Kółko i krzyżyk. 17.25 Magazyn motoryzacyjny. 17.45 Interstudio. 18.25 Między nami jaskiniowcami — film anim. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Miłość niejedno ma imię. Co tydzień wesele — fab. film NRD. 22.05 Świadkowie. 22.25 X Y Z cz. I. 22.55 Dziennik. 23.10 X Y Z cz. II.

**Środa — 24.VIII.** 15.05 Program dnia. 15.10 Wakacyjne Kino Młodych: Na wilczym tropie. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Magazyn literacki. 17.00 Los. Małego Lot. 17.15 Dla dzieci: Baśnie mojego dzieciństwa. 17.45 Festiwalowe Studio „Gama". 18.30 Z przyrodą na Ty. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Festiwal Interwizji SOPOT 77. Konkurs płytowy i Interwizji. 23.00 Dziennik.

**Czwartek — 25.VIII.** 14.20 Program dnia. 14.25 Wakacyjne Kino Młodych: Ludzie z pociągu. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Reportaż filmowy. 16.50 Ekran z Bratkiem. 17.50 Fest. Studia „Gama". 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Festiwal Interwizji Sopot 77. Konkurs Interwizji. 21.30 Pegaz. 22.05 Festiwal Interwizji Sopot 77. Konkurs Interwizji. 23.05 Dziennik.

**Piątek — 26.VIII.** 14.50 Program dnia. 14.55 Wakacyjne Kino Młodych: Za Waszą i Naszą wolność. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Sport. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Poradnik zmotoryzowanego turysty. 17.45 Rzeka posępna — odc. ostatni ser. radz. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Festiwal Interwizji Sopot 77. Konkurs Interwizji. 21.35 Sygnały. 22.00 Festiwal Interwizji Sopot 77. Konkurs Interwizji. 23.00 Dziennik.




**Piątek 19 VIII** — 8.30 Koncert. 9.15 Spektakl. 18.15 Koncert. 19.00 Nasza biografia. 20.30 Pr. estrad.

**Sobota 20 VIII** — 15.10 Nie do wiary. 16.10 Film anim. 16.25 Film dok. 17.15 Uniwersjada — 77. 20.30 Spotkanie z A. Rajkinem. 21.40 Uniwersjada — 77.

**Niedziela 21 VIII** — 12.30 Film fab. 14.30 Koncert 15.40 Klub film. 17.00 Święto lotniczo--sport. 18.00 P. nożna. Dynamo (Tbilisi)-Dynamo (Moskwa). 20.30 Koncert. 21.30 Uniwersjada — 77.




**Białowieża** Po sezonie — ang. 23—24. Czerwone ciernie — pol. 25—26. Granice miłości — węg. 27—28.

**Bielsk Podlaski** Konie Valdeza — wł. 23—24. Horteca — NRD 25—26. Samotnik — fr. 27—28.

**Czeremcha** Piaf — fr. 23—24. Kłopoty z cnotą — jug. 27—28.

**Czyże** Eliksir młodości — rum. Policjanci — USA 24—27.

**Dubicze Cerkiewne** Mniejszy szuka dużego — pol. Mgła nie ukryje zdrajcy — rum. 24—27.

**Hajnówka** Wybór celu — radz. 22—23. Ucieczka gangstera — USA 24—25.

**Kleszczele** Michaś przywołuje świat do porządku — RFN 23—24. Zaginęła dziewczyna — czes. 25—26. Anno Domini — jug. 27—28.

**Michałowo** Lady Caroline — ang. 23—24. Nadwołżańska opowieść — radz. 25—26. Sandakan — jap. 27—28.

**Mielnik** Afonia — radz. 24. Na przykład Józef — NRD 27—28.

**Milejczyce** Dzielny szeryf Lucky Luke — fr.--belg. 23—24. Czerwone ciernie — pol. 25—26. Cudze listy — radz. 27—28.

**Narew** Obecność — buł. Zindy chłopiec z bagien — meks. 24—28.

**Narewka** Trędowata pol. 24—25. Inna — pol. 26—28.

**Nurzec** Gott mit uns — jug. Filipek — NRD 25—26. Dagny — pol. 27—28.

**Orla** Konik garbusek — radz. 24—26. Maria — szwedz. 27—28.

**Rajsk** Ocalić miasto — pol. 24—26. Obrazki z życia — pol. 27—28.



B.Z.Graf. Zam. 1963 B-4

 




## Пройдзе чалавек і...

Па ўсім было відаць, што чалавек тут замоцна не ўмешваўся і не накідваў прыродзе сваіх законаў. Сама яна тут гаспадар, заканадаўца і выканаўца і, прыгледзеўшыся, можна было ўбачыць цікавы кадр з яе свету. Дрэвы стаяць цесна адно пры адным, так цесна, што іх зялёная чупрына сплятаецца ў адну цэласць і ўсё гэта нагадвае застыўшую ў гарачым пацалунку закаханую пару. Яна — з доўгімі распушчанымі валасамі, звісаючымі з лёгка перахіленай назад галавы, ён — схілены над ёю, п'е араматную саладосць з чары яе вуснаў. А ўнізе, нібы плод іх чыстага кахання, выплываючы з зялёных аргазмаў паблісквае на сонцы крыштальнай свежасцю ручаёк. Пачаткова плыве ціха-ціха, далікатна зачэсваючы мох на даўно паваленых старых пнях, і толькі, праплыўшы пад пазелянелым мастом, пачынае бурліць, круцячыся, як некалькігадовы дзяцюк.

Стоячы на мосце, лавілі яны кожны рух, кожную мінімальную змену ў прыродзе, і з вачэй біла дзікае захапленне, як у дзіцяці, атрымаўшага неспатыканую цацку.

— Цудоўна! Так як на нейкай карціне! Глядзець бы і глядзець...

— Але падумай толькі, прыдзе чалавек і ў вачах усё пераменіць. Нахальна, бязлітаснай рукой дашчэнту знішчыць гэтую чыстую дзявічасць, — не адрываючы вачэй ад зялёных карон дрэў, прагаварыў ён.

На хвіліну заціхлі. Бліснуў агеньчык, і ўгару ўзняліся два клубочкі дыму, расплываючыся запахам паленага тытуню. Грудныя клеткі раз-пораз расшыраліся.

— А паветра якое! Аж грудзі распірае! Не то, што ў горадзе. Здаецца, дыхаў бы і дыхаў. Кожная яго драбінка так і б'е свежасцю ды жыццедайнасцю.

— А вада! Проста з ручайка піць можна без ніякіх там фільтраў і хлораў. І падумаць, што прыйдзе чалавек і ўсё гэта знішчыць. Ах — і ў халоднай вадзе засквірчэў, кінуты са злосцю недакурак.

О! Чалавек — істота страшная, — сплюнуў туды ж сама ён.

**Бізун**




У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове.

Беларуская савецкая скульптура, 1973, цана 22 зл. 60 гр.

Альбом з чорна-белымі фотаграмамі скульптур беларускіх савецкіх мастакоў-разьбяроў. У ім прадстаўлены працы 41 майстра разца і лепкі, а таксама пададзены кароценькія даведкі аб іх творчасці.

Югаслаўскія апавяданні, 1975, стар. 272, цана 9 зл. 30 гр.

Зборнік апавяданняў найбольш таленавітых прадстаўнікоў прозы ў сучасных літаратурах народаў Югаславіі. Чытач у ім знойдзе па адным, найбольш характэрным для творчага метада, апавяданні 25 аўтараў, сярод іх таксама апавяданне пяра гордасці сербскай літаратуры, лаўрэата Нобелеўскай прэміі — Іва Андрыча.

**Панасюк М.**, Мужнелі ў барацьбе, 1975, стар. 79, цана 80 гр.

Зборнічак літаратурных замалёвак і апавяданняў пра барацьбу дзяцей і моладзі пад кіраўніцтвам дарослых камуністаў у Заходняй Беларусі супраць санацыйнай улады.

Беларуская лінгвістыка, 1976, цана 6 зл. 20 гр.

У гэтым, дзесятым па чарзе, выпуску часопіса памешчаны, між іншым, артыкулы: Міхневіча А. Я. *„Асноўныя тыпы сінтаксічных амонімаў у беларускай мове“*; Смулковай Э. К. *„Да пытання аб прадказальнасці ўсходнеславянскага націску“*; Вярэвіча В. Л. *„Аб беларуска-польскіх ізалексах“* і інш.

**Падгайскі Л. П.**, Словазлучэнне ў беларускай мове, 1971, стар. 190, цана 3 зл. 80 гр.

У гэтай манаграфіі аўтар прадставіў вынікі сваіх навуковых даследаванняў над дзеяслоўна-іменнымі словазлучэннямі з акалічнаснымі адносінамі і сродках іх выражэння ў беларускай мове.

Кнігарня высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki”, 15-089. Białystok, ul. Kilińskiego 10.

**(мг)**

## ТУРЫСТЫЧНАЕ ПРЫСТАНІШЧА Ў ЛЕСЕ

На міжнародным шляху Е-12, непадалёк ад Чорнай Беластоцкай, сярод прыгожага старога лесу чакае турыстаў арыгінальнае турыстычнае прыстанішча. Можна тут з'есці абед, палюбавацца спевам птушак, адпачыць у цяньку аграмадных сосна́ў і елак, а таксама, калі спатрэбіцца, пераначаваць.

Турыстычнае прыстанішча пад Чорнай Беластоцкай называецца **„Лясны заезд“**. Яго паставіла гмінная спулдзельня „Сялянская самапомач“ у Чорнай Беластоцкай.

Здаецца, што „Лясны заезд“ будзе карыстацца вялікай папулярнасцю сярод турыстаў. Дарога Е-12 абазначана на ўсіх міжнародных картах. Пачынаецца яна далёка ў заходніх краінах і праз Берлін, Варшаву і Беласток вядзе аж у Ленінград. Лясны заезд будзе тады добра рэкамендаваць нашу Беласточчыну.

З яго паслуг скарыстаюцца, напэўна, і жыхары Беластока, асабліва ўласнікі аўтамабіляў. Да гэтага месца ў Букштэльскай пушчы можна дабрацца на машыне за 20-30 мінут. А яшчэ крыху далей, у напрамку Саколкі, знаходзіцца рэчка Сакалда — з яе жывапіснай далінай, дзе можна прыемна правесці свабодны час ля вады або пагуляць па лесе, багатым ягадамі і грыбамі.

Запрашаем тады ў лясны заезд каля Чорнай Беластоцкай.

**(вр)**

Фота аўтара



## НАЙЛЕПШЫЯ З-ПАД НАРАЎКІ

Кожны дзень на пункт скупкі малака ў Нараўцы сяляне дастаўляюць звыш 2 500 літраў малака. Сюды прывозяць яго жыхары Нараўкі, Заблотчыны, Свінарыяў, Янава, Стачка, Грушак, Гушчэвіны, Міклашэва, Гарадзіска, Мінкоўкі і іншых вёсак. Разам будзе 167 гаспадароў, зацікаўленых перш за ўсё гадоўляй малочных кароў. Прымаюць малако зборшчыцы Валянціна Панькоўская са сваёю дачкой Крыстынай. (Сама В. Панькоўская працуе на пункце скупкі малака больш пятнаццаці гадоў). Злеўня малака ў Нараўцы даволі прасторная і зручная. Зімою тут таксама цёпла, паколькі памяшканне абаграваецца пры дапамозе акумуляцыйных печак. Зборшчыцы дбаюць пра парадак і чысціню, якія асабліва тут неабходны. Ад іх мы даведаліся пра тых сялян, якія прадаюць дзяржаве найбольш малака. Да такіх належаць: Ніна Мелеш, Марыя Сачко і Лявон Бароўскі — усе з вёскі Гушчэвіны, Лявон Бірыцкі з Нараўкі, Ніна Панькоўская, Марыя Кічкалюк і Антаніна Трусевіч — усе тры з вёскі Гарадзіска, Параскева Семяняка і Пётр Каліноўскі з Міклашэва, Ян Кісялеўскі з вёскі Стачок, Барыс Нічыпарук і Ян Леўша з Янова, Юлія Кісялеўская з Заблотчыны і Міхал Скепка з вёскі Грушкі.

На першым месцы знаходзіцца Ніна Мелеш з Гушчэвіны, якая кожны дзень дастаўляе на пункт скупкі ў сярэднім 50-55 літраў малака. На другім месцы Лявон Бірыцкі з Нараўкі, які прадае кожны дзень сама менш па 42 літры сырадою. На трэцім — Марыя Сачко і Лявон Бароўскі — абое з Гушчэвіны, а таксама Ян Кісялеўскі са Стачка. Усе яны прывозяць на пункт скупкі па 35-37 літраў малака. Некаторыя са спамянутых гаспадароў пачалі ўжо нават кантрактаваць малако.



*Над ракой Нараўкай у ваколіцы Ляўкова.*
*Фота Я. Цялушэцкага*

Наведалі мы Ніну і Яна Мелешаў з вёскі Гушчэвіны, самых перадавых у прадукцыі малака з-пад Нараўкі. Пры шклянцы чорнай кавы гутарым на тэму іх жыццябыцця. Гэта маладыя, але працавітыя і вопытныя гаспадары. Гадуюць яны перш за ўсё малочных кароў і свіней. Маюць тры дойныя каровы, у тым ліку адну асабліва ўдалую чорна-белую пароды „нцб“, якая дае амаль 30 літраў малака ў суткі, адну пароды „шаралез“ і трое цялят, пакінутых для далейшай гадоўлі. У недалёкай будучыні яны намераны спецыялізавацца выключна ў галіне прадукцыі малака. У гэтым годзе раздабылі ўжо патрэбныя будаўнічыя матэрыялы для мадэрнізацыі аборы, у якую хочуць падключыць яшчэ ваду. Сёлета Ян Мелеш паклаў у сілас 20 тон травы з першага пакосу, а таксама сабраў сена з пару гектараў сенажацяў, у тым ліку палявой асабліва вартаснай травы з аднаго гектара. На корм для кароў сее ён кармавыя буракі ды ўводзіць падсеўкі сырадэлі. У палявых работах карыстаецца ён уласным трактарам і падвеснымі машынамі. Уводзіць сучасныя метады апрацоўкі зямлі і розныя агратэхнічныя прыёмы. Ён каапераруе з нараўкаўскім СКР-ам у гадоўлі свіней. Прадае спулдзельні па восем і больш падсвінкаў для далейшага адкорму.

Варта адзначыць, што Ян Мелеш з Гушчэвіны (ён і ўраджэнец гэтай вёскі) пачаткова закончыў СПР у Нараўцы, а затым у 1969 годзе Сельскагаспадарчы тэхнікум у Ружанастоку. Працаваў у СКР у Нараўцы на пасадзе кіраўніка па справах арганізацыі прадукцыі. Пакінуў аднак гэтую работу, бо захацеў вывесці сваю ўласную гаспадарку на вышэйшы ўзровень.

**Янка Цялушэцкі**



## А гармонік грае, грае...

Невялічкая вёска Вілюкі, што ў гміне Дубічы Царкоўныя, ляжыць на ўскраіне Белавежскай пушчы са сваімі ў асноўным драўлянымі домікамі, якія тонуць у зелені дрэў. Будучы ў гэтай вёсцы, часта можна пачуць мелодыі гармоніка, на якім, забыўшыся аб усім, іграе 17-гадовы хлапец Яўген Мацкевіч. Ужо тры гады мае ён сапраўдны гармонік і раскашуецца яго чароўнымі гукамі. З дзяцінства любіць ён музыку. Шчаслівы быў, калі яму прывязлі калісьці з СССР маленькі дзіцячы гармонік. Сам ён навучыўся іграць і даволі прыгожа выходзілі ў яго мелодыі песень. У пачатковай школе прымаў ён удзел у мастацкай самадзейнасці. Цяпер памагае бацькам працаваць на гаспадарцы. Ад верасня пачне вучыцца ў рамеснай школе ў Гайнаўцы. Там, у Гайнаўцы, плануе ён запісацца на музычны курс і ўдасканальваць свой музычны талент.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

М. ШАХОВІЧ

## З народных гаворак

**дуосне** — напэўна. Я дуосьне знаю, што то вуон хамут украў.

**куліеш** — суп. А ты мніе, маті, куліешу з міску вліей.

**люогма** — лежаті люогма — вельмі хворым. От скажыэтэ, — што за хвороба! Вжэ другу нэдіелю муой Іван люогма лежыт.

**одгалу** — нэма одгалу — не даваць спакою. Возьмі ты зажэні дэсь тые гусі покаміс курэнят накормлю, а то так і ліезут, одгалу од іх ніякого нэма.

**столік** — шуфляда ў стале. А ты шыло возьмі ў столік положы, а то зноў потуом всё пэрэвэрнэш шукаючы.

**суткі** — глухі прамяжутак паміж двума будынкамі. А ты сіеты побіты цэглы пока што в суткі пэрэнэсі.

**(Сакі, гміна Бельск Падляшскі.)**



 

 

## З рэпарцёрскіх запісак




На гэтую свінскую справу натрапіў я ў час сваіх рэпарцёрскіх вандровак па Беласточчыне яшчэ вясной гэтага года. **На працягу паўгода часу эксплуатацыі новай тучарні для 600 штук кормнікаў у спулдзельні прадукцыйнай у Вульцы Нурэцкай здохла 105 свіней, а 24 кормнікі прыйшлося заўчасна дарэзаць.** Свінні гінулі перш за ўсё ад прастуды, ад гнойнага запалення лёгкіх, ад ран на абцарапаных нагах, ад рахіту і іншых хвароб.

Затраты спулдзельні па гэтай прычыне, улічваючы нават і кампенсацыю з ПЗУ, **перавысілі 200 тысяч злотых.**

* ✲ *

Пра ўсё гэта пісаў я на старонках „Нівы" яшчэ ў пачатку мая. Пад рубрыкай *„З рэпарцёрскіх запісак"* 8 мая паявіўся ў „Ніве" фельетон *„Каго на суд?"*. Бо сапраўды, гадаўлянае марнатраўства і будаўнічая халтура ўжо тады пахла мне і пахне надалей судом. **Не можна ж лёгкай рукой махнуць на тое, што ў адным са звенняў нашай нацыянальнай гаспадаркі раптам прападае 200 тысяч злотых!** Ды што там грошы! Краіна патрабуе мяса. А тут, у спулдзельні прадукцыйнай у Вульцы Нурэцкай, **20 працэнтаў усяго стану свіней прыйшлося закапаць у зямлю!**



*Для спулдзельні прадукцыйнай у Вульцы Нурэцкай прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва ў Бельску Падляшскім будуе другую хлеўню для адначасовага адкорму 600 штук свіней. Ці яна таксама будзе „выканчальняй для кормнікаў"?...*

* ✲ *

Доўга давялося нам чакаць, каб нехта адгукнуўся і ўказаў рэдакцыі, на каго падаць у суд за тое яўнае гаспадарчае злачынства. Урэшце 7 ліпеня адгукнуўся Ваяводскі саюз сельскагаспадарчых спулдзельняў прадукцыйных. Паясненні асабіста падпісаў старшыня праўлення, інжынер **Анджэй Пшэгалінскі.**

На жаль, на дзвюх (з гакам) машынапісных старонках не знайшоў я найважнейшага: **на каго падаць у суд? Хто канкрэтна, якая асоба і якія працаўнікі вядомых гаспадарчых адзінак маюць адпакутаваць за свядомае або і несвядомае марнатраўства грамадскай маёмасці?** Адказ сцвярджае, што ніхто не вінаваты, бо тучарню ў Вульцы Нурэцкай пабудавалі паводле тыповага праекта, які апрацавала вучонае бюро праектантаў у Варшаве, а для патрэб Беласточчыны прыстасавалі гэты праект таксама высокаадукаваныя спецыялісты з Ваяводскага бюро праектаў вясковага будаўніцтва. Падобная тэхналогія вялікапрамысловага адкорму свіней, паясняюць яны, прымяняецца ў цэлай краіне.

**Значыць, мы не вінаваты!**

**А хто**, калі ў гэтым прыкладным тыповым будынку, пабудаваным у Вульцы Нурэцкай, свінні проста замярзалі!

* ✲ *

Праўда, пад націскам кіраўніцтва спулдзельні (а не без уплыву і публікацыі ў „Ніве") 17 мая была склікана да Вулькі Нурэцкай шматлікая камісія ў саставе праектантаў, выканаўцаў і спулдзельцаў. Камісія выявіла многія будаўнічыя недакладнасці. Перш за ўсё цэментная падлога не мела адпаведнай ізаляцыі ад зямлі. Скляпенне (строп) было пакрыта напалавіну танчэйшым слоем мінеральнай воўны — ацяпленне сцен зроблена нядбайна і так далей...

А дзе тады быў інспектар будаўнічага нагляду? Яго прозвішча **Янюк.** Так напісана на інфармацыйнай табліцы на будове ў Вульцы Нурэцкай. За што яму плацілі?

* ✲ *

Будаўнічага бракаробства ў Вульцы Нурэцкай натварыла **Прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва ў Бельску Падляшскім.** Так прызнала камісія, так паясняе старшыня А. Пшэгалінскі. Гэтае прадпрыемства надалей будуе ў Вульцы Нурэцкай **такую ж самую тучарню для 600 штук кормнікаў паводле гэтага ж самага праекта!** Адначасова вядзе яно **рамонт толькі што пабудаванай тучарні.** З інфармацыйнай табліцы я даведаўся, што **кіраўніком будовы з'яўляецца тут Я. Адынец, а майстрам — Э. Лапінскі.**

Асабліва зацікавіў мяне гэты рамонт новай тучарні. На бетонную падлогу рабочыя льюць смалу (лепік), а на гэта кладуць пліты са стэрапяну і ўсё гэта прыкрываюць тонкім слоем (да 3 см) бетону. Гэта мае забяспечыць свіней ад холаду з падлогі.

* ✲ *

Каб зрабіць месца для рабочых, спулдзельцам давялося абмежаваць колькасць кормнікаў да 450 штук. Вымушаны яны былі прадаць уласных парасят, матэрыял вельмі дэфіцытны, бо не было дзе іх паставіць на адкорм.

І зноў затраты. **Траціць спулдзельня, бо не дае так нам усім патрэбнай прадукцыі і траціць будаўнічае прадпрыемства, бо непатрэбна марнуе грошы на рамонт** таго, што рабочыя таго ж самага прадпрыемства змарнавалі, за што яны атрымалі заплату, прэмію і ўсё іншае.

А дарэчы — Бельскае прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва за **чые грошы** будуе? За свае? **Яно будуе за нашы супольныя, дзяржаўныя залатоўкі.** Ці можна тады спакойна глядзець, як гэтыя залатоўкі рабочыя прадпрыемства лёгкай рукой раскідаюць абыяк і абы-дзе? Напрыклад, бетон у Вульцы залівалі яны ў пякучы мароз, бо набліжалася свята, бо спяшаліся дамоў, каб паспець на святочны пачастунак.

* ✲ *

**У адрамантаваную частку новай тучарні** спулдзельцы з Вулькі Нурэцкай 9 ліпеня пусцілі сваіх кормнікаў. Стэрапян — матэрыял вельмі мяккі і ломлівы. Пад цяжарам некалькіх дзесяткаў свінячых ног проста ўгінаецца. Бетонны слой, таўшчынёй у тры сантыметры, які прыкрывае гэты стэрапян, ужо на другі дзень у многіх месцах палопаўся і паламаўся. Свінні дабраліся да стэрапянавых пліт і я асабіста мог назіраць, як яны з вялікім апетытам **з'ядалі гэты стэрапян.** Не ведаю, ці да сёння што-колеч яшчэ з яго асталося.

* ✲ *

Значыць, **свінская справа** ў Вульцы Нурэцкай **прадаўжаецца.** У красавіку здохла тут 44 кормнікі, у маі 14 і 7 дарэзалі, у чэрвені — 12, а да 10 ліпеня — калі я пабываў у Вульцы Нурэцкай, давялося 17 штук недакормленых парсюкоў адставіць на бойню — бо і так яны паздыхалі б.

Нездарма тады спулдзельчую тучарню ў Вульцы Нурэцкай ва ўсім наваколлі называюць проста — в ы к а н ч а л ь н я й.

**Віктар Рудчык.**
Фота аўтара.

## ФАЛЬКЛОР

### ВЯСНЯНКА




*Кладытэ кладкі вэрбовы, вэрбовы —*
*час вам, дывонькі, додому, додому.*
*Сасінскі хлопці гукалі, гукалі —*
*біелкоўскіх дівчат шукалі, шукалі.*

Ад Агаты Леўчук, 1906 года нараджэння, вёска Бялкі гм. Мілейчыцы, запісаў у маі 1977 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## ХРЫСЦІННЫ АБРАД ВЁСКІ ЧЫЖЫ



Да сёння захаваліся ў нашай вёсцы яшчэ некаторыя абрады. Праўда, можна іх палічыць на пальцах, але існуюць. Вельмі цікавым з'яўляецца хрысцінны абрад, які адыгрывае важную ролю ў нашай вёсцы. Каморы, у якіх калісьці заўсёды жанчына радзіла, замяніла бальніца. Бабку-павітуху — акушэрка і лекар.

Пасля нараджэння дзіцяці адбываюцца адведкі. Пераважна бываюць яны ў нядзелю. Збіраюцца жанчыны, мужчыны не маюць права ісці ў адведкі. Жанчыны прыносяць усялякія падарункі нованароджанаму дзіцяці, а таксама неабходную чвэртку водкі ці віно і булку. Цэлы вечар гасцююць. Спяваюць розныя песні. Называецца гэта ўсё „бабскай водкай". Рэдка каторая жанчына не п'е. Каля поўначы разыходзяцца.

На другую нядзелю бацька дзіцяці запрашае ўсіх тых, хто быў у адведках, на хрысціны, але ўжо з мужамі. Першымі асобамі, якія павінны быць на хрысцінах, з'яўляюцца кум і кума. Яны тут адыгрываюць найважнейшую ролю. Маці дзіцяці з кумой „убіраюць дзіця да хрысту". Да „выпраўкі" кладуць грошы, каб дзіця было багатае, а каля парога кладуць кніжку, каб дзіця добра вучылася. Цераз парог павінна перанесці дзіця бабка, потым аддае куме. Кума з кумам вязуць, а калі блізка каму да царквы, нясуць дзіця хрысціць. Калі ахрысцяць, прыходзяць дадому, кума з кумам сядаюць за стол у куток, за імі сядаюць усе сабраныя госці. Гасцююць.

Вечарам адбываецца ў Чыжах так званая „каша". „Каша" — гэта проста дараванне грашыма нованароджанага. Прыносяць дзве талеркі. У адну кума высыпае „кашу" — гэта значыць цукеркі і пранікі, у другую — госці будуць класці грошы. І вось пачынаюць спяваць песню. Гэта песня прызначана спецыяльна на „кашу".

*„Ой чыя то дзірка нэ городжана,*
*Срэбром, золотом нэ обложана".*

Адразу і адспеўваюць:

*„Ой то дзірка кумы нэ городжана*
*Срэбром, золотом нэ обложана".*

У той момант кума кідае ў талерку грошы. Таксама спяваюць куму, пасля бацьку дзіцяці, бабцы, дзеду, цётцы, дзядзьку, а пасля ўсім гасцям. У гэтым абрадзе не выступае толькі маці, якая не павінна нават быць у гэтым памяшканні, дзе адбываецца „каша".

Усім тым, хто падыходзіць да талеркі і кідае грошы, кума ў заплату дае цукеркі і пранікі — плаціць „кашай". Калі ўсе госці выканаюць свой абавязак, бяруць талерку, у якой была „каша", і б'юць яе аб падлогу, каб добра вялося ў жыцці дзіцяці.

Пасля гэтай цырымоніі хрысцінны абрад набліжаецца да канца. Бацька дзіцяці запрашае ўсіх гасцей на другі дзень на паправунак. На паправунак, праўда, мала прыходзіць гасцей. Другі дзень з'яўляецца менш цікавым. Госці вып'юць, паабедаюць і разыходзяцца па хатах. Пасля доўга яшчэ ўспамінаюць, як было на хрысцінах.

**(вл)**



### ЗА КРОСНАМІ

Калі не трэба ісці ў поле, калі ёсць свабодны час, дык і пры вырабе дамотканых саламяных дарожак зарабіць крыху можна. Кожны грош у гаспадарцы спатрэбіцца.

За кроснамі вы бачыце Марыю Цар з вёскі Кнарыды ў Бельскай гміне.

Фота В. Рудчыка.



 




**Заказвала**
*Люда Мартынюк з Дубін.*

# Сардэчныя тайны

Вясной гэтага года ажаніўся мой сын. Ён у нас адзін, дачка-ліцэістка два гады таму трагічна загінула. І я цешылася, што ізноў у нашай хаце дзяўчына паявілася, што мо яна аблегчыць маё гора. Жывем мы разам, бо кватэры ім трэба яшчэ пару добрых гадоў пачакаць. Я не працую, дык заўсёды абед згатую, у хаце прыбяру. І рада, што мае дзеткі на гатовае прыдуць, бо яны ж з працы змучаныя вяртаюцца. Праўду кажучы, дык я ў хаце за дзень так натаўкуся, што вечарам ногі калом стаяць. А маладыя сабой заняты, ні на што ўвагі не звяртаюць. А муж аднойчы прыйшоў з працы і кажа: „Нічога, старая, аформлю „вчасы“ над возерам, паедзем, дык адпачнеш сабе“. Вось мы і паехалі цэлай сям'ёй. А там пра яду трэба было самім дбаць, а сыновая і не падумала, каб мне памагчы. Вярнуліся мы дамоў і я задумалася: як жа яны будуць жыць, гаспадарыць, калі кватэру атрымаюць?

Варвара

Паважаная Варвара! Прабачце, але вы і самі крышку вінаваты, самі да гэтага бесклапоцця іх прывучылі. Чаго ж ім клапаціцца, мама ж з імі! Лепш, каб яны на адпачынак самі паехалі. І трэба і ў хаце іх да работы прывучаць. Нічога, што працуюць. Хатняя таўкатня не лягчэйшая ад працы на прадпрыемствах. Да таго ж яны людзі маладыя. Хай прывыкаюць да работы і абавязкаў, тады лягчэй ім будзе гаспадарыць самастойна.

**Сэрцайка**

# Куток практычных ведаў




## ДБАЙ ПРА ТВАР



Лета, фрукты, гародніна. Калі жанчына хоча мець прыгожы твар, павінна выкарыстаць гэты момант. Скура ж твару таксама патрабуе вітамінаў, а яны ў вялікай колькасці выступаюць якраз цяпер. Таму варта рабіць як найчасцей фруктова-гародніннья маскі на твар. Выціснутым з фруктаў сокам можна таксама мыць твар.

Як гэта рабіць? Найлепш тады, калі маем свабодную хвіліну і няма нікога ў хаце. З агуркамі на твары лепш не паказвацца мужу і дзецям. Адным словам, кладучы маску на твар, трэба проста прызначыць гэты час на адпачынак (найлепш пад вечар легчы ў цямнейшым пакоі). Перад тым, як паложым маску, трэба твар і шыю вельмі дакладна памыць.

**Маска з агуркоў** выбельвае твар, уводзіць у скуру вільгаць, сцягвае поры. Найзручней было б аблажыць скуру скрылёчкамі свежых агуркоў. Можна таксама выціснуць сок са сцертага на тарцы агурка, змяшаць яго са збітай пенай з бялка і памазаць гэтым твар і шыю.

**Маска з памідораў** рэкамендуецца для тых, у каго скура твару тлустая і мае зямлістае адценне. Можна яе рабіць як са скрылёчкаў памідора, так і з расцертых памідораў, якімі змазваем твар і шыю.

**Маска з маладой бульбы** падыходзіць да перасушанай загарам скуры. Вялікую бульбіну зварыць „у мундзірах“, абабраць, патаўчы, дадаючы чайную лыжачку свежай смятанкі. Цёплай маскай змазаць твар і шыю.

Вітамінны кампрэс на шыю можна зрабіць **з суніц** (выціснуць з іх сок). Вату памачыць у сок, палажыць на шыю і завязаць шыю эластычным бінтом.

Для вельмі сухой скуры рэкамендуецца таксама **маска з трускалак.** Гэта маска робіцца вельмі проста. Дастаткова расціснуць пару свежых трускалак на ілбе і хутка размазаць па твары, каб не выцек сок.

**Эскулап**

# Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: А. меў гаспадарку, якая з'яўлялася яго асабістай уласнасцю, і жонка яго не мела права на гэту гаспадарку. Ён аддаў гаспадарку дзяржаве за пенсію. У яго карыстанні асталася сяліба з будынкамі. Пасля яго смерці на сялібе асталася яго жонка, якая атрымоўвае тую пенсію, якую меў яе муж. Ці можа яна прадаць сялібу з будынкамі?

АДКАЗ: Незалежна ад таго, ці гаспадарка з'яўлялася супольнай уласнасцю, ці ўласнасцю толькі мужа, або толькі жонкі — пенсія прыслугоўвае мужу і жонцы. У нашым прыкладзе жонцы не прыслугоўвала б права на пенсію, а тым самым і на карыстанне з сялібы толькі ва ўмовах, калі б апошнія пяць год яна не працавала на гаспадарцы і не жыла з мужам. Пакуль жыве муж і жонка, на патрабаванне кожнага з іх пенсія можа быць падзелена. Але нават у гэтым выпадку пасля смерці аднаго з іх цэлая пенсія выплачваецца другому. Так сама выглядае і карыстанне з участка, які пакідаецца ў карыстанне пенсіянерам. Зямля гэткага ўчастка належыць дзяржаве, а будынкі астаюцца ўласнасцю таго, хто быў уласнікам гаспадаркі. Аднак, калі ўласнікам (як у гэтым прыкладзе) быў муж, то пасля яго смерці будынкі пераходзяць ва ўласнасць жонкі. Яна можа прадаць тыя будынкі, але не сялібу. Калі яна будынкаў не прадасць, пасля яе смерці пераходзяць яны ва ўласнасць дзяржавы.

# Вер-не-вер

Што значыць, Астроне, калі сніцца параход? Мне прыснілася, што я ўжо падышоў да парахода, які стаяў на прычале і меў адплываць. Але тут пачалі правяраць білеты, і высветлілася, што нешта ў мяне не ў парадку. І мяне не пусцілі на параход, які адплыў без мяне.

Сяргей

Сніцца мне так. Быццам мая знаёмая нарадзіла дзіця. А мы з яе мужам паехалі ў бальніцу за ёю. І вось выйшлі мы ўжо ўсе каля іх дома з машыны. Я кажу: „Давайце я панясу ваша дзіця наверх“ (бо яны жылі даволі высока). І ўзяла я гэта дзіцянё на рукі ды нясу. Прыношу яго ў іх кватэру, ажно гляджу: у маіх руках замест дзіцяці невялічкая лялька... Я вельмі перапужалася, бо баялася, што яны падумаюць, быццам я нешта зрабіла гэтаму дзіцяці, каб яно не жыло, каб ператварылася ў ляльку. А я ж яму нічога не зрабіла. Ой, мусіць, нешта кепскае абазначае мой няўдалы сон...

Яніна з Беластока

**Сяргей!** Чакала цябе нейкае выгаднае падарожжа, з якога, бадай, табе не прыдзецца скарыстацца.

**Яніна з Беластока!** Былі ў цябе нейкія добрыя намеры, нейкія надзеі на радасную праяву ў тваім жыцці, на якую ты вельмі разлічвала, але, на жаль, усё гэта акажацца дарэмным. Шкада, што не магу цябе пацешыць сённяшнім днём, але, магчыма, споўняцца яшчэ твае мары ў будучыні.

**Астрон**

# Этнаграфічнае акенца



*Драўлянае будаўніцтва XVIII стагоддзя на Беласточчыне. Званіца св. Мікалая ў Кляшчэлях.*

*Фота М. Гайдука.*




Капітан Косцін вырашыў зацікавіць гітлераўцаў магчымасцю атрымаць ад Кацярыны Отаўны вельмі важныя дакументы і паставіць іх пры гэтым у такія ўмовы, якія прымусілі б фашысцкую разведку ўводзіць новыя сілы і сродкі.

Максімаў перадаў шыфраваную радыёграму: „Сяброўка“ мае прыкладны план чыгуначных перавозак на ліпень, жнівень, верасень. Можа яго прадставіць для агляду на кароткі час. Просіць сто тысяч рублёў і завушніцы“.

Разведцэнтр неўзабаве адказаў: „Згодны. Ці можна ў вас дастаць фотаапарат, плёнку, неабходныя прыналежнасці?“

Праз некаторы час Максімаў радзіраваў: „Можам дастаць толькі просты фотаапарат, але няма плёнкі, праявіцеля і замацавальніка“.

І зноў хуткі адказ: „Чакайце фатографа“.

Фатограф прыбыў на кватэру Максімава. Ён агледзеўся і смела сказаў:

— Я фатограф. Ці не трэба павялічыць фотакарткі?

Максімаў адказаў таксама „ўмоўнасцю“:

— Павялічыць няма чаго, а вось сфатаграфавацца хацелася б.

Сувязны даставіў грошы, завушніцы, фотаапарат і плёнку. За вячэрай ён шмат піў, выхвальваўся, адкрыта сказаў, што гэтай аперацыі шэф надае асаблівае значэнне.

На наступны дзень фатографу наладзілі сустрэчу з „сяброўкай“. Патаргаваўшыся крыху, яна прыняла грошы і завушніцы, дала распіску. Прадстаўніку разведкі Кацярына спадабалася. Ён спрабаваў нават назначыць ёй спатканне, але яна ветліва ўхілілася.

У вызначаны час перад шпіёнам ляжалі „дакументы“. „Сяброўка“ зрабіла выгляд, што яна хвалюецца, прыспешвала фатографа. А ён, прадчуваючы будучую ўзнагароду, усміхаўся, акуратна перагортваў паперы, шчоўкаў затворам. Дзейнічаў ён спакойна і ўпэўнена.

Вечарам па яго ўказанню Максімаў перадаў радыёграму: „Заданне выканана. Кантэйнер у мяне. Ангеліка здаровая“.

Гэта азначае, што план перавозак атрыман, усё добра, чакаем указанняў.

Няцяжка ўявіць, як узрадаваліся фашысцкія разведчыкі. Гэта ж не жартачкі, здабыты важны дакумент — план перавозак на цэлы квартал! Ён дасць магчымасць зрабіць вывады аб планах савецкага камандавання... Але вось як яго пераправіць? Даручыць дастаўку плёнкі агенту рызыкоўна. Раптам яго затрымаюць пры пераходзе лініі фронту? І каштоўны матэрыял прападзе, і важная крыніца інфармацыі — „сяброўка“ будзе пастаўлена пад удар...

Ноччу Максімаў прыбег да капітана Косціна з радыёграмай іх разведкі. Яна была кароткая: „Падбярыце пляцоўку для пасадкі самалёта. Ляцець фатографу“.

Пры дапамозе ваеннага авіяцыйнага спецыяліста выбралі роўную вялікую паляну ў лесе. Збудавалі патаемныя перашкоды. Варта самалёту дакрануцца да зямлі, і ён ужо не паднімецца. У разведцэнтр паведамілі каардынаты пасадачнай пляцоўкі.

Самалёт прыляцеў на досвітку. Косцін і Максімаў запалілі кастры і далі сігналы ліхтарыкамі. Аднак лётчык рабіць пасадку не спяшаўся. Знізіўшыся, ён некалькі разоў праляцеў над палянай і толькі пасля гэтага рызыкнуў прызямліцца. Самалёт прабег па паляне два дзесяткі метраў і раптам зваліўся на крыло. Матор заглух. Лётчык саскочыў на зямлю, убачыў людзей з аўтаматамі, якія падбягалі да яго і падняў рукі...

* ✲ *

Косцін і Максімаў увайшлі ў кабінет генерала разам. Сівы высокі чалавек устаў насустрач, ветліва прывітаўся, паціснуў руку.

— Таварыш Максімаў, за смеласць, знаходлівасць і адвагу ў барацьбе з варожай агентурай вы ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. Мне даручана ўручыць гэту ўзнагароду. Сардэчна віншую!

— Служу Савецкаму Саюзу! — адказаў Максімаў.

— Можна павіншаваць і Косціна. Ён цяпер маёр.

Генерал паказаў на крэслы:

— Сядайце. Вам абодвум — новае тэрміновае заданне...

## Заданне асаблівай важнасці

### СЯМ'Я МАЁРА НІКОЛЬСКАГА

У ноч з суботы на нядзелю маёр Нікольскі знаходзіўся ў штабе. Час быў

# ТРЫБУНА чытачоў

## Макулатура — цэнна, як скура

Макулатура — вельмі цэнная сыравіна для прамысловасці. Яна замяняе нам многа гектараў лесу і многа працы. Але не ўсе пра гэта ведаюць, а мо не хочуць ведаць.

У нашых установах, перш за ўсё ў гмінах, макулатуры нішчыцца надта ж многа. Яна ідзе на падпалку ў печах. У кошыках напхана многа паперы, а за сталамі ляжаць старыя газеты. Лёгка ўзяць усё і спаліць у печы. Вясной або летам, калі ў печах не паляць, макулатуру спецыяльна, калі назбіраецца больш, упіхаюць у печ і падпальваюць. Таксама ў гмінных сметніках — найперш збіраюць і ўпіхаюць, а потым усю выбіраюць і падпальваюць. У гміне няма каму заняцца макулатурай, бо нідзе няма пунктаў скупкі макулатуры. Гэта яўнае бракаробства!

**Віт**

## У Тымянцы

Кіраўніцтва РСП у Тымянцы вырашыла змяніць характар гадоўлі. Да гэтага года вялася толькі гадоўля кароў. У гэтым годзе пасля эканамічнай ацэнкі вырашылі яны перайсці на гадоўлю і адкорм свіней. Да гэтага аднак патрэбны прыспасобленыя хлявы.

І вось у гэтым годзе ўсе спулдзельцы гаспадарчым спосабам узяліся за рамонт і дапасаванне да гадоўлі свіней тых будынкаў, якія былі мала выкарыстаны. Ужо восенню ў тымянскай тучарні пачнуць квічаць свінні. Яны павялічаць даход спулдзельцаў.

**Мікалай Няплоха**




### „НІВЕ“

*Расці, „Ніва“, развівайся,*
*Павялічвай свой тыраж!*
*Ў беларускіх нашых хатах*
*Цябе будуць ўсе чытаць.*

*Ты палепшыла старонкі*
*І трыбуну чытачоў,*
*Пра Астрона не забыла,*
*Як каму прысніўся сон.*

*І „З маёй званіцы“, праўда,*
*Кожны любіць пачытаць,*
*Закранеш ты недаверкаў,*
*А за гэта табе — пяць!*

*А парады ад юрыста*
*На чарзе у нас стаяць,*
*Кожны гэта прачытае —*
*Знае ўсё, як адвакат.*

*Пажаданні шлю я „Ніве“,*
*Многа шчасця калектыву,*
*Сто лет жыці — не ўміраці,*
*Родну „Ніву“ пашыраці!*

**М. Лук'янюк**

трывожны: паступалі данясенні аб тым, што германскія войскі сканцэнтраваліся ля савецкіх заходніх граніц. Службовыя клопаты навaліліся гарой, і да таго ж брала за душу трывога за сям'ю: жонка і дзеці паехалі ў Іванаўку праведаць бабулю, думалі вярнуцца хутка, але чамусьці затрымаліся, і вось ужо больш чым тыдзень ад іх не было ніякіх вестак.

Ноч апусцілася на горад. Нікольскі скінуў гімнасцёрку, акуратна павесіў яе на спінку крэсла, працёр хусцінкай ордэны і прылёг на канапу. Але заснуць доўга не мог. Думаў пра сям'ю. Яму ўявілася ціхае пагранічнае сяло Іванаўка, дзе ён пасля вучылішча маладым лейтэнантам пачынаў камандзірскую службу. Патанаючыя ў садах хаты. На ўзгорку школа. Там ён і пазнаёміўся з настаўніцай Алесяй. Першыя сустрэчы ў сельскім клубе, потым хвалюючыя спатканні ў садзе, а далей — шумнае вяселле. Гуляла ўся вёска. Праўда, азмрочыў агульны настрой стрыечны брат Алесі, Казімір, які хаваўся ад улад. Алеся расказвала, што ён у бойцы забіў чалавека, хоць і яго паласнулі нажом па шчацэ. І вось у разгар вяселля ён раптам з'явіўся, але яго тут жа затрымалі пагранічнікі.

*(Працяг будзе)*

## Свята ў Канюках

Летняй нядзеляй у вёсцы Канюкі адбылося вялікае свята. Сюды прыехалі прадстаўнікі Заблудаўскай гміны, каб уручыць узнагароду і падзяку за першае месца ў гміне, заваяванае ў конкурсе: „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“. Прывітаў іх разам з усімі людзьмі вёскі солтыс Уладзімір Матвеюк.

Вёска Канюкі стала ў гміне перадавой. У вышэй названым конкурсе яна здабыла ўсе паказчыкі гаспадарнасці. Своечасова выкупіла ўсе мінеральныя ўгнаенні і абсеяла імі поле і сенажаць. Выканала ўмовы кантрактацыі збожжа, мяса і малака звыш плана. Арганізавала доўгатэрміновы сельскагаспадарчы курс, у якім прыняло ўдзел 20 асоб з вёскі. Прыняла масавы ўдзел у грамадскіх пачынах пры пабудове дарог, асабліва ў партыйным пачыне, калі на працу выйшла 400 асоб з вёскі. Вёска Канюкі стала прыгожай і чыстай. Няма і ўспаміну даўнейшай вёскі Канюкі, аб якой у 1960 годзе пісаў Рыгорка ў „Ніве“ ў публікацыі пад загалоўкам „Ліст з Канюкоў“: „Аб Канюках гаворыцца ў ваколіцы не інакш, як з іранічнай усмешкай“.

За 16 год у Канюках усё змянілася. На 73 гаспадаркі, якія даўней былі ў вёсцы, засталася толькі палавіна. Усе тыя, хто не вельмі цікавіўся гаспадаркай, пакінулі яе і паехалі ў горад, каб зрабіцца там панамі. Тыя, хто застаўся ў вёсцы, пачалі ў шчырым трудзе працаваць, ведаючы, што ніхто ім дарэмна нічога не дасць. І дарабіліся. Выраслі ў вёсцы новыя, прыгожыя дамы, людзі купілі сучасную мэблю. Спакойна і весела цяпер жывецца ў вёсцы Канюкі. Калі зрабіць што трэба — людзі зробяць, а калі адпачыць, ёсць дзе бо і рэчка Нарва плыве каля самай вёскі, а вакол шырока і далёка распрасціраюцца парослыя буйныя травой сенажаці.

**М. Матвеюк**

## Сведак тых дзён



Шмат год прайшло ад таго часу, як была вызвалена наша краіна з-пад германскай акупацыі. У Дубічах Царкоўных жыве чалавек, які з'яўляецца сведкам тых дзён. Гэта гаспадар Павел Сцепанюк. Вось што ён расказвае: „Найперш прыйшлося мне ваяваць з фашыстамі яшчэ ў 1939 годзе ў Польскім войску. Наша рота стаяла на захад ад Варшавы, блізка нямецкай граніцы, дзе мы будавалі бункеры. Калі 1 верасня немцы напалі на Польшчу, працы каля бункераў не былі яшчэ закончаны, і немцы імі хутка завалодалі. Найперш бамбардавалі, а пасля ў рух пайшлі танкі і пяхота. Наша часць мужна баранілася, але вымушаны былі мы адступіць“.

Павел Сцепанюк выводзіцца з беднай сям'і. Пасля нападу немцаў на Савецкі Саюз яго вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. Апынуўся ў маёнтку за Голдапам. Гаспадар кепска адносіўся да рабочых. Прабаваў Сцяпан уцякаць, не ўдалося.

Доўгачаканы час прыйшоў у пачатку 1945 года. Як радасна ўспамінае Павел сваю сустрэчу з савецкімі салдатамі! Адразу ўступіў у іх рады. У час бою пад Пілавай Паўла Сцепанюка цяжка параніла, і ён папаў у палон. Вызвалілі ізноў савецкія байцы. Павел жыве на вёсцы. Працуе на гаспадарцы. Цяжкая рана адчуваецца і сёння.

**М. Панфілюк**

## Аб гайнаўскім ВСС

Гайнаўскі аддзел ВСС вядзе сваю дзейнасць у 28-мі спажывецкіх крамах, дзвюх прамысловых, 12 кіёсках, адным страгане, на двух ражнах. Гандлёвая сетка ВСС ахоплівае ўсю Гайнаўку, і жыхары задаволены гэтым. Акрамя таго, у Гайнаўцы працуе яшчэ шэсць гастранамічных пунктаў і рэстаран „Гайнавянка“, „Ядладайня“, бар „Экспрэс“, буфет на станцыі ПКП, кавярня „Вжос“, піўная, дзве рабочыя сталовыя. Наогул ёсць дзе ў Гайнаўцы паесці, але горад развіваецца, і гайнаўскі ВСС плануе пабудаваць яшчэ адзін аб'ект на 200 месц. Вырасце ён у 1978 годзе на пасёлку Гайнаўка-II.

Гайнаўскі аддзел ВСС шырока развівае паслугі для жыхароў горада. Вядзе ён 11 форм розных паслуг. Найбольш паслуг праводзіць „Практычная пані“.

Кожны трэці жыхар горада з'яўляецца членам ВСС. Працуюць 42 грамадскія камісіі, якія сочаць за працай установы і кантралююць яе. Старшынёй рады аддзела ВСС з'яўляецца шматгадовы дзеяч ВСС Эдвард Куснеж.

**Эдмунд Вайсковіч**

## Дзе тыя цудоўныя дні?

10-15 год таму назад часта даводзілася мне быць у Палічнай. Пры кожнай сустрэчы з жыхарамі гэтай вёскі, а асабліва з моладдзю, адчуваў я сябе быццам дома. Прыемна было тады заглянуць у мясцовую святліцу. Там кіпела праца. Важаком была моладзь. А працавалі ўсе — бацькі і дзеці, настаўнікі і сяляне. Аб'ядноўваліся ў адной сям'і — мастацкім калектыве. І яшчэ зараз вырысоўваюцца мне ў памяці вобразы палічанскіх распаўсюджвальнікаў культуры: Івана Петручука, Міколы Дудара, Ніны Смолюк, Надзі Гопш, Віктара і Пятра Ігнацюкоў, Міколы Сцепанюка і многіх іншых. А ці можна забыць такіх настаўнікаў, як Антон Леўша, Анна Чыквін, Насця Сіліванюк, Ліда Лапінская? Напэўна не! Такіх настаўнікаў трэба паказваць як прыклад, добры прыклад.

Ды тыя цудоўныя дні пайшлі ў забыццё. Зараз многае змянілася ў вёсцы. Моладзь запрапасціла прыгожую традыцыю культурнай дзейнасці і дае дрэнны прыклад сваім равеснікам у ваколіцы. П'е гарэлку. Аб культурнай і грамадскай працы не ўспамінай ім!

Калі гміна ў Кляшчэлях дала саджанцы дрэўцаў, каб абсадзіць імі плошчу каля святліцы, ніхто не варухнуўся з месца. Толькі, як сказалі ў гміне, што рамонту святліцы не зробяць, тады з горам- з бядою пасадзілі тыя дрэўцы. А што зрабілі з музычнымі інструментамі, якія купіла гмінная ўправа ў Кляшчэлях і мясцовыя пажарнікі? Не ведаю, ці палічанскі музычны калектыў існаваў хоць год?! Пасля кожны з музыкантаў іграў на вяселлях, каб зарабіць грошы. Інструменты знішчыліся. Трэба было са свечкай шукаць іх па прыватных кватэрах. Вось да чаго зараз здольна палічанская моладзь!

**Ул. Сідарук**

## Алякшоўскае пекла

На дарозе паміж Дубяжынам і Дыдулямі, ля Алякшоўшчыны, ёсць велізарная лужына. Толькі ў сухое лета няма тут гразі. Пасля кожнага дажджу немагчыма праехаць ні аўтамабілем, ні фурманкай. А калі пачалі вазіць гравій праз Дубяжын, дык зрабілася там сапраўднае пекла. Аўтамабілі, самазвалы і трактары перамясілі ўсё. Бяда таму, хто хоча „праскочыць“ гэты адрэзак. Дубяжынцы няраз звярталіся з просьбай да ПЗДЛ у Бельску, каб засыпалі балота. Ды ніхто там не захацеў іх слухаць.

На Алякшоўшчыне, насупраць гэтага балота, Ніна Аверчук мае сваё поле, на якім пасеяла траву. Зараз зрабілі тут дзесяць дарог, знішчылі ёй пасевы. Калі яна звярнулася з просьбай, каб далі кампенсацыю за траву, у гміне сказалі, каб запісвала нумары аўтамабіляў і падавала на іх у калегію. А ці не датычыць гэта гмінных і дарожных улад у Бельску Падляшскім? Мне здаецца, што гэта ў іхняй кампетэнцыі.

**(к-ус)**



## Блізка да юбілею

Веслаў Алясевіч з Беластока спортам займаецца ўжо 19 год. Ён спрынцёр у ЛЗС. Заслужаны майстар спорту. Атрымаў значок „Майстар спорту“ ў 1975 годзе. Таксама значок майстра спорту Савецкага Саюза атрымаў за бег на лініі Масква-Варшава-Берлін. Аб гэтым бегу міру гаворыць сам Весек: „З Польшчы было нас 16 удзельнікаў, з Савецкага Саюза — 15 і з ГДР — 12. За дзень мы прабягалі ад 70 да 80 кіламетраў. Усё адбывалася ў канцы мая і пачатку чэрвеня. Гэта адзін з найцікавейшых момантаў у маёй кар'еры“.

У 1973 годзе ён выступіў на стадыёне ў Супраслі ў бегу на 3 км і здабыў тады рэкорд акругі. Ён ахвотна прымае ўдзел ва ўсіх спартыўных мерапрыемствах, якія адбываюцца ў Супраслі. У гэтым годзе прымаў удзел у эстафеце „Бег перамогі“, таксама стартаваў на 5 кіламетраў у час „Дзён Супраслі“. У маі будучага года гэты спрынцёр будзе святкаваць свой юбілей — 20-годдзе лёгкаатлетычнай кар'еры.

**(гай)**

## Няма рабочай вопраткі

Даўней я прачытаў артыкул у газеце „Грамада — Рольнік Польскі“, дзе нейкі чытач скардзіўся, што няма ў дзяржаўных крамах рабочай вопраткі для сялян. Селянін не пойдзе ў поле ці да жывёлы ў эланах ды нейлонах, а вымушаны купляць на рынку вопратку чыгуначнікаў ды вайсковую. Хачу сказаць, што падобная справа выступае і ў бельскіх крамах. І нам патрэбная рабочая сялянская вопратка. Дзе яе знайсці і купіць?

**Кірылюк Міхал**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „У КУРАШАВЕ БЕЗ ДАРОГІ“, „Ніва“ № 23/1110 ад 5 чэрвеня 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W CZYŻACH.**

W odpowiedzi na notatkę prasową z 23/1110 numeru tygodnika „Niwa” z dnia 5 czerwca 1977 roku, dotyczącą wykonania rowów odwadniających we wsi Kuraszewo, Urząd Gminy w Czyżach informuje:

1. Powyższa sprawa była zbadana komisyjnie i ustalono, że faktycznie istnieje potrzeba wybudowania rowów odwadniających w części wsi Kuraszewo w ramach czynu społecznego mieszkańców.
2. Mieszkańcy Kuraszewa wykonają wszystkie roboty z tym związane jesienią tego roku.
3. Ostateczne uregulowanie stosunków wodnych we wsi Kuraszewo nastąpi w latach 1978—1980, po przeprowadzeniu drenacji gruntów w obiekcie rzeki Łoknica.

**Z up. Naczelnika Gminy**
**Grzegorz Mackiewicz**
**Sekretarz Biura**

**Да публікацыі „АПОШНІ МЛЫН НА РЭЧЦЫ САКАЛДЗЕ“, „Ніва“ № 25/1112 ад 19 чэрвеня 1977 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SCH” W WASILKOWIE.**

Stosownie do notatki prasowej pt. „Ostatni młyn na rzece Sokołdzie”, zamieszczonej w tygodniku „Niwa” z dnia 19 czerwca 1977 roku, Zarząd Gminnej Spółdzielni „Samopomoc Chłopska” wyjaśnia co następuje:

1. W sierpniu bieżącego roku zostanie założona instalacja elektryczna siłowa i oświetleniowa jak również zostanie zagospodarowany silnik elektryczny do napędu kaszarki.
2. W pierwszym kwartale 1978 roku zostanie zmienione pokrycie dachowe oraz będą wymienione walce do przemiału zbóż. Ponadto jeszcze w lipcu 1978 roku, tj. w okresie słabego popytu na usługi młynarskie zostaną wymontowane śluzy spiętrzenia wody.

**Viceprezes d/s Handlu i Produkcji**
**M. Ruta**

**Да заметкі „НА ПАШЫ БЕЗ ВАДЫ“, „Ніва“ № 25/1112 ад 19 чэрвеня 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W ORLI.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Na pastwisku bez wody” z 25/1112 numeru tygodnika „Niwa” z dnia 19 VI 1977 roku — Urząd Gminy w Orli wyjaśnia:

1. Wspólnota pastwiskowa wsi Reduty leży w dolinie rzeki Orlanki na zmeliorowanym i zagospodarowanym terenie. Na wspólnocie jest wybudowany wodopój do pojenia bydła i wody wystarcza na cały sezon wypasu.
2. Wadliwie wybudowana studnia będzie zlikwidowana.
3. Wspomniana wspólnota jest ogólnowiejska a nie Urzędu Gmin i wszelkie uchwały są rozpatrywane przez Walne Zgromadzenie, zaś nadzór nad ich wykonaniem pełni Zarząd.

**Sekretarz Biura**
**Konstanty Kaponow**

**„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

